ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 10 (109) 10 – 16 сакавіка 1995 г. Кошт 150 рублёў



## «АЗОТАЎЦАЎ» НА МЯКІНЕ НЕ ПРАВЯЛІ

**На Гарадзенскім вытворчым аб'яднаньні "Азот" адбылася канферэнцыя працоўнага калектыву. Работнікі прадпрыемства прыйшлі да высновы, што пераўтвараць ВА "Азот" у акцыянернае таварыства пакуль не трэба, хаця Міндзяржмаёмасьці краіны ўжо выдала наконт гэтага загад.**



Рашэньне аб акцыяніраваньні "Азота" было прынята на канферэнцыі працоўнага калектыву ў канцы 1993 года. Але ж па розных прычынах работа па яго прыватызацыі зацягвалася. Нядаўна была праведзена ацэнка асноўных фондаў аб'яднаньня, і вызначана - статутны фонд АТ "Азот" складае на 1 сьнежня 1994 года 186 мільярдаў рублёў. Палова яго падлягае прыватызацыі з дапамогай імянных прыватызацыйных чэкаў, дзяржава атрымае 25 працэнтаў акцый плюс 1. На астатнія можа прэтэндаваць калектыў. Але ж, па падліках, работнікі прадпрыемства змогуць выкупіць, максімум, чатыры працэнты акцый, хаця і будуць набываць са скідкай. Ці ж не здзек гэта над людзьмі?

Акрамя таго асноўны сэнс акцыяніраваньня "Азота" заключаецца ў прыцягненьні інвестыцый для арганізацыі нармальнай работы прадпрыемства. Улічваючы, што звыш 60 працэнтаў выдаткаў аб'яднаньня складае газ, быў распрацаваны варыянт, каб адным з заснавальнікаў стала расейскае АТ "Газпрам". Яно зьбіраецца ўнесьці 80 мільярдаў рублёў, і яго доля будзе складаць 30 працэнтаў у канчаткова сфармуляваным статутным фоньдзе. Але ж што для "Азота" такая сума? Мізэр. Яна асабліва не дапаможа аб'яднаньню, але ж дазволіць "Газпрому", фактычна за бясцэнак, набыць маёмасьць і атрымліваць значную частку прыбытку.



Таму канферэнцыя прыняла зварот да Прэзідэнта Беларусі з прапановай зьмяніць заканадаўства, даўшы працоўным калектывам больш правоў пры кіраваньні прыватызаваным прадпрыемствам.

**А.ДУК.**

**Фатаграфаваў А.УЛАДАСЕВІЧ.**

## НАРОД СУПРАЦЬ ВАЙНЫ

На Савецкім пляцы Горадні сябрамі Гарадзенскай рады Беларускага Народнага Фронту быў наладжаны чарговы, пяты па ліку, пікет па збору подпісаў у падтрымку акцыі "Народ супраць вайны".

Як і раней, гарадзенцы выявілі вялікую падтрымку акцыі. Супраць удзелу беларусаў у збройных канфліктах, а таксама ўцягваньня Беларусі ў вайсковыя блокі паставілі свае подпісы звыш чатырохсот чалавек.

Усяго сабрана ўжо больш чым дзьве з паловай тысячы подпісаў.

**Г.НЁМАН.**

## ДАКУМЕНТЫ БЫЛІ СФАБРЫКАВАНЫ

**Шостага сакавіка адбылося першае судовае паседжаньне па іску старшыні Патрыятычнага Руху "Беларускае Згуртаваньне Вайскоўцаў" падпалкоўніка Міколы Статкевіча да былога міністра абароны Рэспублікі Беларусь генерал-лейтэнанта Паўла Казлоўскага.**

Бок адказчыка прадстаўляў палкоўнік Сераштан.

На першым жа паседжаньні вайсковая калегія Менскага гарадзкога суда высьветліла, што абвінавачваньні, высунутыя супраць Статкевіча, на падставе якіх ён быў звольнены, сфабрыкаваны Міністэрствам Абароны, якое для таго, каб звольніць Статкевіча само прыдумала Статут БЗВ і само на падставе гэтага Статута звольніла Статкевіча і яшчэ не адзін дзесятак афіцэраў.

Наступнае паседжаньне адбудзецца 16 сакавіка, на яго будзе запрошаны ўжо сам Павел Казлоўскі з усёй сьвітаю.

**Усяслаў ВОЙНІЧ.**

## «ФАР-ТАСІС» ДАПАМОЖА

Горадню, па запрашэньню Культурнаасьветніцкага фонду "Бацькаўшчына", наведаў Зьбігнеў Ласосік - каардынатар "Фар-Тасіс" - дабрачынных праграм, якія працуюць пад эгідай Эўрапарламента.

Спадар Ласосік сустрэўся з прадстаўнікамі непалітычных грамадзкіх арганізацыяў горада, дзейнасьць якіх накіравана на разьвіццё дэмакратыі і абароны правоў чалавека. Ён расказаў пра ўмовы атрымання грантаў ( фінансавай і матэрыяльна-тэхнічнай дапамогі ) ад праграм "Фар-Тасіс", пракансультаваў удзельнікаў па пытаньнях афармленьня і падачы заявак.

**М.М.**

## ЯК БЫЦЦАМ МАМАЙ ПРАЙШОЎ!

Камісія,прызначаная міністрам абароны Анатолем Кастэнка, вывучыла сітуацыю, складўшуюся ў воінскіх частках пасьля адыходу з тэрыторыі рэспублікі войск Міністэрства абароны Расеі. Па выніках работы камісіі вызначана, што матэрыяльныя страты, панесеныя Беларуссьсю ў выніку гэтага, складаюць 31,5 мільярда рублёў. У асноўным гэта тычыцца аэрадромаў у Зябраўцы (Гомельскай вобласьці), Балбасава (Ворша), Мачулішчах (Менскі р-н), Баранавічах і Бабруйску. У прыватнасьці, на гэтых аб'ектах разбураны ўзлётна-пасадачныя полосы, тэрыторыя забруджана паліўна-змазачнымі матэрыяламі, у зямлю закапаны датчыкі з самалётаў, якія выпраменьваюць іянізуючыя промні, разрабаваны забудовы. З іх, дарэчы, скрадзены нават вокны, дзьверы, рамы. Акрамя таго, Расея перадала толькі старую (чацьвёртай катэгорыі) аўтатэхніку.

Рашэньне па выніках дзейнасьці камісіі ў Міністэрстве абароны атрымаць не ўдалося. У прэс-службе МА паведамілі, што гэтым пытаньнем займаецца Служба кантролю адміністрацыі прэзідэнта.

**СІМ**

## АМЭРЫКАНСКАЯ «ВОКА» БАЧЫЦЬ ДАЛЁКА

**У Мастоўскім райвыканкаме адбылася сустрэча фермераў, кіраўнікоў і спецыялістаў сельгаспрадпрыемстаў раёна з кіраўніком прадстаўніцтва Амэрыканскай карпарацыі садзеяньня фермерскаму руху "ВОКА" у Рэспубліцы Беларусь Р.Сэлбі і старшынёй праўленьня Асацыяцыі садзеяньня разьвіцьцю сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, вясковых арэндатараў і кааператараў Гарадзенскай вобласьці В.Фядуцікам.**

Спадар Фядуцік падкрэсьліў, што без рэфармаваньня сельскай гаспадаркі далей жыць немагчыма, гэта пачынаюць разумець і спецыялісты Мінсельгаспрада, распрацоўваюць адпаведныя канцэпцыі. Раней ці пазьней і кіраўнікі гаспадарак вымушаны будуць дзейнічаць у гэтым накірунку. Цяжка сказаць зараз, хто зьяўляецца гаспадаром зямлі на сяле, таму рэформа закране, у першую чаргу, уласнасьць. У сувязі з гэтым паўстае маральна-этычная праблема (асабліва ў Заходняй Беларусі): што рабіць з ранейшымі землеўладальнікамі? В.Фядуцік лічыць, што ёсьць два шляхі яе вырашэньня: альбо вярнуць ім зямельныя надзелы (цалкам ці часткова), альбо новыя ўладальнікі павінны разьлічыцца з імі. Ён адзначыў, што толькі карэнныя зьмены на сяле падштурхнуць рэформы ў горадзе і, ўвогуле, будуць садзейнічаць паляпшэньню эканамічнай сітуацыі.

Потым выступіў і адказаў на пытаньні прысутных кіраўнік прадстаўніцтва "ВОКА" ў Рэспубліцы Беларусь Р.Сэлбі. Ён крыху расказаў аб дзейнасьці арганізацыі, якую прадстаўляе. "ВОКА" была створана ў 1970 годзе і пасьпяхова працавала ў 105 краінах сьвету. З сакавіка 1993 года яна ажыцьцяўляе свае праграмы на Беларусі. Яе мэта - садзейнічаць павелічэньню даходаў малых і сярэдніх прадпрыемстваў, занятых у аграбізьнесе. Р.Сэлбі прапанаваў кіраўнікам калгасаў зьвяртацца за дапамогай, бо "ва ўмовах рынчнай эканомікі цяжка весьці калгаснае гаспадараньне па традыцыі".

Калі раней, на думку спадара Сэлбі, перад гаспадаркамі стаялі палітычныя задачы - забясьпечыць насельніцтва працай і прадуктамі, то зараз яны павінны выраблаць высокаякасную прадукцыю, якая б прыносіла прыбытак. Амэрыканец таксама зьвярнуў увагу на ролю дзяржавы ў дзейнасьці сельгаспрадпрыемстваў. ("Пакуль Вы знаходзіцеся пад кантролем дзяржавы, яна будзе злоўжываць ціскам на Вас".) На яго думку, паўстала неабходнасьць скасаваньня прамых дзяржаўных заказаў на пастаўку сельгаспрадукцыі, "трэба мець строгую сістэму падаткаў, але яны не павінны быць высокімі", перш чым весьці размовы пра банкруцтва і неэфектыўнасьць вытворчасьці, трэба зрабіць парытэт цэн.

Р.Сэлбі падкрэсьліў, што заходнія інвестары аддаюць перавагу супрацоўніцтву з прыватнікамі, таму насьпела неабходнасьць трансфармацыі існуючых калектыўных гаспадарак у асацыяцыі, аб'яднаньні, акцыянерныя таварыствы. "Але любая мадэль, якая корміць чалавека і якая дае чалавеку тое, што ён жадае, - добрая мадэль", - сказаў ён.

Кіраўнікі калгасаў даволі скептычна ставіліся да выказваньняў выступоўцаў, але ж пасьля заканчэньня сустрэчы падыходзілі да Р.Сэлбі, каб даведацца пра адрасы гаспадарак у Расеі, Малдове, якім "ВОКА" аказвала дапамогу.

Кожны з прысутных атрымаў літаратуру, якая датычыцца дзейнасьці фермерскіх гаспадарак у ЗША.

**А.ДУК.**

## ШУКАЙЦЕ МЯСА І МАСЛА Ў ЛЯДОЎНЯХ

Больш за 200 тон сьметанковага масла і дзьве тысячы тон мяса накапілася ў лядоўнях нарыхтоўчых прадпрыемстваў Горадні. Прыблізны кошт гэтых, недасягальных многім сем'ям абласнога цэнтру, прадуктаў харчаваньня сягае 23 мільярдаў рублёў.

**Г.Д.**

## НЕ СТАЦЬ

**Ой, на Лысай, на гары**
**Ведзьмы рагаталі**
**З гэтай, чорт яе бяры,**
**З новай вертыкалі.**
**Я спытала ў Ведзьмака,**
**Чаму ў ёй патрэба?**
**"Не стаіць, кажа Лука,**
**Падпіраці трэба".**
**А лясун, глушак такі,**
**Не можа паняці,**
**Ці Луку, ці у Лукі,**
**Што тут падпіраці?**
**Бо ўладу камуністаў**
**Як ні падпіралі,**
**Белавежскі вецер сьвіснуў -**
**Разам тут упалі.**
**Хто упаў, а хто й застаўся,**
**Хто яшчэ хістаецца,**
**Як з карупцыяй не папаўся -**
**У вертыкаль ўціскаецца.**
**Хоць кажушак і не чысты,**
**Ды новыя латы,**
**Раней былі камуністы,**
**Цяпер - дэмакраты.**
**Ведзьмы разам заспявалі:**
**"Гоп, мае грачанікі,**
**Усе ў новай вертыкалі**
**Былыя начальнікі".**

*Паважаны рэдактар газеты "ПАГОНЯ",*
*Як прыдзецца да спадобы*
*Напішу Вам еш'ча,*
*З прывітаньнем да асобы*
*Ведзьмакова цешча.*





# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## «ПРЭЗІДЭНТ, КАТОРЫ НЕНАВІДЗІЦЬ СВАЮ КРАІНУ»

### АДКРЫТЫ ЛІСТ

### Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнка

Вельмі шаноўны сп.Прэзідэнт!

Ужо праходзіць другая палова года з таго часу, калі Вы, пад лёзунгам **Антыкарупцыі і Вываду Беларусі з Эканамічнага Крызісу**, былі выбраныя першым прэзідэнтам незалежнай Рэспублікі Беларусь і ўвесь беларускі народ, будучы моцна змучаным доўгагадовымі здзекамі і ашуканствам з боку розных акупантаў, з захапленьнем чакаў Вашых рашучых крокаў супраць карупцыянераў, аднак, да гэтага часу, спадзяваньні беларускага народа не апраўдаліся і ён цяпер жыве нават горш чым да выбараў...

**СПРАВА КАРУПЦЫІ І КАРУПЦЫЯНЕРАЎ**

Падчас Прэзідэнтцкіх выбараў беларускі народ паверыў Вам, даў Вам свой голас і ўзлажыў на Вас сваю надзею, што Вы ачысьціце ўрадавыя ўстановы ад карупцыянераў, каторыя, як тыя паразіты, смокчуць беларускую кроў і даводзяць прыродна-багатую Рэспубліку Беларусь да стану жабрацтва!

Беларускі сумленны народ і цяпер усё-яшчэ чакае і жыве з надзеяй, што Вы выканаеце свае перадвыбарчыя абяцаньні - аднак нават да нас у далёкую Аўстралію ўжо даходзяць трывожныя чуткі, што Вашы абяцаньні падаць у суд карупцыянераў аказаліся пустой перадвыбарчай прапагандай і што ў новым урадзе Вы толькі замянілі былых карупцыянераў другімі - сваімі пабочнікамі!

Надоечы мы мелі нагоду чытаць даклад, зроблены ў Парламенце Беларусі дэп.С.Антончыкам, пра карупцыю і карупцыянераў, якія, як выглядае, надалей працуюць пад Вашай апекай і таксама, што Вы, замест юрыдычнай праверкі прадстаўленых дэп.С.Антончыкам фактаў, пайшлі па дыктатарскаму шляху **забароны** друкаваньня даклада ў газетах Рэспублікі Беларусь - з ужо сусьветна вядомым і моцна ў Вольным сьвеце асуджаным, эпізодам выхаду газет з "белымі плямамі"... Тое, што Ваш супрацоўнік сп.**Фядута** ўзяў на сябе віну за гэты ганебны і дыктатарскі крок **нічым не зьніжае Вашу адказнасьць за яго!!!**

Мы ў Аўстраліі выказваем сваю шчырую падзяку газеце "Свабода" за поўнае апублікаваньне даклада дэп.С.Антончыка і моцна асуджваем тых, хто ламае Канстытуцыйныя правы беларускага народа і стараецца ізноў накінуць на яго ярмо фашыстоўска-камуністычнай дыктатуры!!!

**СПРАВА БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ МОВЫ**

У асноўным Законе Рэспублікі Беларусь ясна гаворыцца, што дзяржаўнай мовай ёсьць **беларуская мова** - дык калі, нарэшце, беларускі народ будзе мець радасьць пачуць Вашы даклады і выступленьні на беларускай мове?

Дарэчы, тут ёсьць зазначыць, што, згодна маёй інфармацыі, Вы ёсьць **адзіным Прэзідэнтам у сьвеце, каторы сароміцца дзяржаўнай мовы сваёй краіны,** і тыя аўстралійцы, каторыя цікавяцца і наглядаюць за падзеямі ў Рэспубліцы Беларусь, пытаюцца ў нас: "Чаму?" Як і чым можна адказаць на гэтае пытаньне? Буду ўдзячным Вам за параду!!! Я асабіста трымаюся думкі, што Вы ўсё-яшчэ вывучаеце беларускую літаратурную мову і што ў скорым часе Вы выступіце з прамовай да свайго народа на чыстай беларускай мове і гэтым дакажаце, што Вы ёсьць сапраўдным і гордым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь!!!

Вы надоечы езьдзілі з афіцыйнай візітай у суседнюю Літоўскую Рэспубліку, дык дазвольце мне, калі ласка, крыху затрымацца і падсумаваць стан літоўскай мовы ў Літве і адносіны да яе Ўраду Літоўскай Рэспублікі...

Як ведама, калі Літва аб'явіла сваю незалежнасьць яшчэ ў 1918 годзе, літоўская мова была амаль што поўнасьцю зьнішчаная - аднак Урад Літвы **не патрабаваў жаднага рэферэндума,** але адразу назначыў **Асобную Камісію,** адзіным заданьнем якой было **Аднаўленьне Літоўскай Мовы** - што і было зроблена ў параўнальна-скорым часе...

Таксама і цяпер, калі Літва аб'явіла сваю незалежнасьць некалькі гадоў таму назад, літоўская мова адразу і аўтаматычна стала дзяржаўнай мовай Літоўскай Рэспублікі, і на гэтай мове гутараць лідэры ўсіх палітычных плыняў - а што ж робіцца з нашай беларускай мовай у нашай Рэспубліцы Беларусь?

Мы ведаем, што прыхільнікі "единой и неделимой" маскоўскай імперыі і таксама некаторыя апанаваныя "псіхалогіяй рабства" асобы беларускага паходжаньня, **моцна ненавідзяць так незалежнасьць Беларусі, як і беларускую мову, гісторыю ды культуру** і гэтыя **імперскія адпадкі** нават маюць нахабства дамагацца "рэферэндума" па справе беларускай мовы і нацыянальнай сімволікі ў Рэспубліцы Беларусь... СОРАМ, ПАЗОР І ГАНЬБА!

Ці Польшча, Расея, Літва ды Фінляндыя рабілі рэферэндум, каб знаць, якая мова павінна быць дзяржаўнай у іхніх краінах? Ніколі! А ці беларускі народ ёсьць горшым за рускі, літоўскі ці японскі? Таксама НЕ! Дык ёсьць натуральным спадзявацца і верыць, што ў Польшчы - польская, у **Фінляндыі** - фінская, Японіі - японская і ў Рэспубліцы Беларусь заўсёды будзе дзяржаўнай **беларуская мова,** і беларускі народ таксама павінен заўсёды ганарыцца сваёй тысячагадовай нацыянальнай сімволікай, бел-чырвона-белым сьцягам і гербам Пагоня!

На беларускай дзяржаўнай мове пісаліся славутыя Статуты-Канстытуцыі ўжо 500 год таму назад і трэба запэўніць, што на беларускай мове будуць пісацца ўсе будучыя дзяржаўныя акты Рэспублікі Беларусь!

Трэба таксама прыпомніць чужынцам, жывучым у Рэспубліцы Беларусь, што беларусы, пражываючыя ў другіх краінах сьвету, уключаючы Расею, вывучаюць і шануюць мовы і законы гэтых краін - і чужынцы Беларусі таксама мусяць вывучаць і шанаваць беларускую мову і законы... Іначай быць няможа!!!

Што тычыцца Вашага негатыўнага падыходу да беларускай дзяржаўнай мовы, дык трэба прызнацца, што за Вамі і Вашай дзейнасьцю цяпер наглядаюць шматлікія аўстралійскія журналісты, палітыкі і некаторыя журналісты ўжо займаюцца зьбіраньнем матэрыялаў для англамоўнай кніжкі пра жыцьцё і канвульсіі маладой Беларусі і дзейнасьць яе першага, усенародна выбранага, Прэзідэнта... Ёсьць розныя цікавыя прапановы і сугэстыі да назову гэтай кніжкі - і адзін з тытулаў, якія прапанаваліся зацікаўленымі жуналістамі, ёсьць: "The President Who Hates His Country" - або па беларуску: "Прэзідэнт, Каторы Ненавідзіць Сваю Краіну"...

Будзем спадзявацца, што гэты тытул не будзе ані патрэбным, ані рэальным у скорым часе!

Буду чакаць ад Вас парады і інфармацыі, за якія буду ўдзячным!

Няхай жыве Незалежная Рэспубліка Беларусь!!!

З павагай,

**Алесь АЛЕХНІК,**
**генеральны сакратар**
**Асацыяцыі беларусаў Аўстраліі,**
**г.Сідней.**

**(Друкуецца на мове арыгіналу.)**

## С.АНТОНЧЫК: «НІ НА ПЕРШАЕ, НІ НА ДРУГОЕ СУДОВАЕ ПАСЕДЖАНЬНЕ НЕ ПАЙДУ!»

**Разбіральніцтва, прызначанае на першага сакавіка па іску ўпраўляючага справамі прэзідэнта Беларусі І.Ціцянкова да народнага дэпутата Сяргея Антончыка, а таксама да "Газеты Андрэя Клімава" і газеты "Свабода" давялося адкласьці.**

Прэзідэнцкі "гаспадарнік" лічыць, што спадар Антончык, выступаючы 20 сьнежня мінулага года на сесіі ВС давёў факты, зьняважаючыя яго, Ціцянкова, гонар і сумленьне. Спадар Ціцянкоў патрабуе кампенсаваць маральны ўрон сумай пяць мільярдаў рублёў. А да газет іск скіраваны за тое, што яны надрукавалі даклад Сяргея Антончыка.

Карэспандэнт удакладніў у Сяргея Антончыка прычыну адсутнасьці ў зале суда. На гэты запыт народны дэпутат адказаў так: "Я не маю намеру ісьці ў суд, які парушае Канстытуцыю. Артыкул 93 Галоўнага закону згадвае, што дэпутат не нясе юрыдычнай адказнасьці за сваю дзейнасьць у Вярхоўным Савеце. А маё выступленьне 20 сьнежня на сесіі было зроблена па даручэньню парламента. Я выступіў, як законатворца, і прывёў дакладныя факты. Праўда, што тычыцца атрыманьня Ціцянковым кватэры, то тут я зрабіў памылку. Сям'я Ціцянковых на той момант складалася з пяці чалавек, а не з трох. У астатнім я зрабіў правільныя высновы".

На пытаньне, ці не зьбіраецца Сяргей Антончык скарыстаць судовае паседжаньне як трыбуну для выкрываньня прэзідэнцкай каманды, быў такі адказ: "Канечне, я мог пайсьці ў суд, але ў мяне зараз проста не стае часу займацца гэтымі справамі. Мяне нават не цікавіць, што адбывалася на першым судовым паседжаньні. І на другое паседжаньне, прызначанае на 13 сакавіка, я не зьбіраюся ісьці. Няхай суд навучыцца выконваць Закон. Але, калі мяне справакуюць, то я гатовы элементарна даказаць сваю праваТу. Дарэчы, І.Ціцянкоў будзе самым галоўным героем майго другога антыкарупцыйнага дакладу".

**СІМ**

## ХТО КІРУЕ?

**У "Народнай газеце" і газеце "Звязда" тыдзень таму зьявіліся радасныя паведамленьні Міністра абароны Рэспублікі Беларусь Анатоля Кастэнкі пра тое, што апошнім часам зьменьшыўся адток афіцэраў з Беларусі ў Расею. Давайце глянем, што хаваецца за гэтым паведамленьнем.**

Сапраўды, зьнешні адкрыты адток зьмяншаўся на самой справе, але зьявілася новая плынь, як бы мовіць, унутраны адток.

Ужо неаднаразова паведамлялася, што афіцэры Узброеных Сілаў Беларусі расейскай нацыянальнасьці пры звальненьні імкнуцца атрымаць расейскае грамадзянства і аформіць пеньсію ў Расеі. Што ж, для беларускага бюджэту хоць нейкая палёгка. Але зараз пачаланазірацца новая зьява. Расейскае грамадзянства прымаюць афіцэры, якія знаходзяцца на дзейнай службе ў Беларускім войску. Так, у Лідзе ў в/ч 07032 расейскае грамадзянства прыняў камандзір гэтай часткі палкоўнік А.Хамутнікаў і каля дзесятка афіцэраў рангам ніжэй. І нікога гэта не зьдзівіла, не выклікала ніякіх пытаньняў, накшталт таго, у якім войску магчыма, каб часткай камандаваў замежны грамадзянін. Нават у "дзікай" Афрыцы для замежных спецыялістаў існуе ранг дарадцы.

А, зрэшты, каго гэта павінна зьдзіўляць? Калі падобная практыка бярэ пачатак у самых высокіх штабах Узброеных Сілаў Рэспублікі Беларусь.

Так расейскае грамадзянства прыняў начальнік аддзела армейскай авіяцыі Вайскова-Паветраных Сілаў Рэспублікі Беларусь палкоўнік В.Бульба і яго намесьнік палкоўнік В.Носаў, а па штабе ходзяць, і, відаць, не без падставы, чуткі, што расейскае грамадзянства прыняў і камандуючы Вайскова-Паветранымі Сіламі генерал-лейтэнант В.Сядоў. Як гаворыцца, куды ўжо далей. Хіба што пацікавіцца, якое грамадзянства ў спадароў Кастэнкі і Лукашэнкі. Магчыма, таксама расейскае. Але гэта пакуль невядома. Затое вядома іншае: ні Вярхоўны Галоўнакамандуючы спадар Лукашэнка, ні міністр абароны спадар Кастэнка не прымалі Вайсковай прысягі на вернасьць Беларусі.

**Усяслаў ВОЙНІЧ.**

## У КОЖНЫМ ДЭМАКРАЦЕ ЖЫВЕ БАНАПАРТ

Лідзкія дэмакраты кінуліся ў Вярхоўны Савет, дакладней у кандыдаты ў дэпутаты Вярхоўнага Савета. Ня гледзячы на рашэньні партый, пашыліся незалежнымі дэпутатамі мо па пяць чалавек на акругу. Ужо зараз бачна, што з-за асабістых амбіцый выбарчая кампанія ў Лідзе і Лідзкім раёне можа быць прайграная па ўсіх акругах. Мне не шкада дэмакратаў. Мне шкада камуністаў, якія павінны будуць гадаць, супраць каго накіраваць асноўную прапаганду.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

## НЕ ПАДДАМОСЯ ПАДМАНУ

**Давялося на гэтым тыдні больш часу, чым звыкла, паназіраць за дзейнасьцю электронных сродкаў масавай інфармацыі, якія маюць магчымасьць уплываць на пачуцьці і думкі жыхароў Беларусі. І што ж высьветлілася? Аказваецца, нас працягваюць ідэалагічна апрацоўваць. Можа не так прымітыўна, як у часы прыснапамятнай КПСС, але наўрад ці менш эфектыўна. З гэтай нагоды, прапаную адкрыць у "Пагоні" новую рубрыку, у якой праз аналіз выкладзеных у сродках масавай інфармацыі зьвестак, раскрываліся б факты і механізмы ідэалагічнай апрацоўкі жыхароў незалежнай Беларусі ў шкодным для іх накірунку.**

Давайце, для прыкладу, паспрабуем адкінуць прапагандысцкае шалупіньне і знайсьці рэальную падаплёку падзеі, аб якой нядаўна даволі настойліва інфармавалася грамадзтва на ўсёй тэрыторыі СНД, у тым ліку і жыхары Беларусі. Я маю на ўвазе забойства вядомага тэлевядучага канала Астанкіна У.Лісьцева.

На мой погляд, гэтая падзея яскрава паказала, што расейскае імперска-дзяржаўнае ўтварэньне на практыцы ўжо ператварылася ў мафіёзную дзяржаву, дзе сутнасьць, а часам, як відаць, і форма ўнутранай палітыкі вызначаецца барацьбой мафіёзных груповак за сьферы ўплыву.

Але, не менш важныя высновы ўзьнікаюць ад супастаўленьня дэманстратыўнага, непрапарцыянальнага маштабнага вымушваньня ў грамадстве стану жалобы з фактам інфармацыйнага замоўчваньня фашыстоўскага па сутнасьці і стылю гвалту над цэлым чачэнскім народам. Толькі за тое, што гэты народ рашуча абраў свабоду - тысячы людзей былі забіты, дзесяткі тысяч - паранены, сотні тысяч - пазбаўлены ўласнага жыльля. Яўна перабольшаны на гэтым фоне ажыятаж вакол сьмерці Лісьцева, напэўна, у многім тлумачыцца жаданьнем адпаведных сіл Расеі адцягнуць увагу свайго і суседніх народаў ад непамерна больш значных і трагічных падзей, якія адбываюцца на тэрыторыі Чачні.

Акрамя таго, здавалася б, практычна адзіны дэмакратычны інстытут суседняй краіны - сродкі масавай інфармацыі - на паверку аказваецца ўсяго толькі цынічнай прыладай у руках тых, хто мае кіраўнічыя рычагі.

Я ўпэўнены, што большасьць чытачоў "Пагоні" адносна дадзеных падзей думаюць прыблізна так, як і як. Але я таксама ведаю, што для таго, каб адстойваць такія думкі, большасьці людзей патрэбна, каб яны былі выказаны ў сродках масавай інфармацыі, каб людзі ведалі, што гэта не толькі іх уласныя думкі, але і думкі ўсіх нармальных людзей, маючых імунітэт да імперскага прапагандысцкага замбіраваньня.

**А.АСТРОЎСКІ,**
**прафесар.**

## «МЫ ХОЧАМ ЖЫЦЬ»

**Ужо каля тысячы жыхароў г.Ганцавічы паставілі свае подпісы пад зваротам да прэзідэнта Лукашэнкі, у якім яны заклікаюць спыніць будаўніцтва так званага ваеннага аб'екта "Баранавічы".**

Гаворка ідзе пра вядомую РЛС супрацьракетнай абароны, якая разьмешчана за 80 км ад Баранавічаў і знаходзіцца на мяжы Клецкага і Ганцавіцкага раёнаў (за 10 км ад Ганцавічаў і за 23 км ад Клецка). Паводле падпісанага 6 студзеня расейска-беларускага пагадненьня гэты аб'ект перадаецца ў бясплатнае карыстаньне Расеі на 25 гадоў. Ён складаецца з дзьвюх пабудоваў: на адной будзе ўсталявана 18 тысяч выпраменьвальнікаў, на другой - 26 тысяч.

На думку некаторых спецыялістаў, электрамагнітнае выпраменьваньне пры рабоце станцыі закране г.Ганцавічы, а таксама шмат якія вёскі Ганцавіцкага і Ляхавіцкага раёнаў, што можа адмоўна паўплываць на здароўе насельніцтва. Людзей таксама непакоіць, што "у выпадку канфлікту Расеі з кім-небудзь, першы ўдар будзе нанесены па гэтым супрацьракетным аб'екце", - адзначаецца ў звароце да прэзідэнта.

**М.ЗАНЬКА,**
**дэпутат Ганцавіцкага гарсавету.**





# ГРАМАДЗТВА

## ПРАГНОЗ І БЮДЖЭТ ЗАЦЬВЕРДЖАНЫ

**Як ужо паведамлялася, 28 лютага адбылася чарговая сесія Гарадзенскага гарадзкога Савета дэпутатаў. Перад яе пачаткам прадстаўнікі гарадзкіх улад павіншавалі славутага штангіста А.Курловіча з перамогай на чэмпіянаце сьвету, а мэр Горадні Г.Крупенка ўручыў яму ў якасьці падарунка тэлевізар.**

Потым дэпутаты прыступілі да працы. Спачатку яны заслухалі даклады пра прагноз эканамічнага і сацыяльнага разьвіцьця і бюджэт горада на бягучы год.

Плануецца, што сёлета, ў параўнаньні з мінулым годам, прадукцыя прамысловасьці павялічыцца на 0,3, а вытворчасьць тавараў народнага спажываньня - на 0,5 працэнта. Аднак з-за зьніжэньня плацёжаздольнасьці насельніцтва (пры прагназуемым росьце цэн у 3,9 раза памер сярэдняй заработнай платы павялічыцца ў 3,2 раза) будзе працягвацца тэндэнцыя зьмяншэньня аб'ёмаў вытворчасьці мяса, кандытарскіх і каўбасных вырабаў, хлеба і цыгарэт.

У будаўніцтве плануецца асвоіць 85,7 мільярда рублёў капукладаньняў. Будзе пабудавана 1456 кватэр і тры інтэрнаты на 1889 месц (у чарзе на атрыманьне жыльля знаходзіцца 32781 чалавек, для 700 звольненых у запас вайскоўцаў летась пабудавана толькі 12 кватэр).

З улікам спажывецкіх магчымасьцяў насельніцтва аб'ём розьнічнага тавараабароту і платных паслуг складуць 90,4 і 94,1 працэнта да ўзроўню мінулага года.

Прадбачыцца, што ў службу занятасьці зьвернецца 11,4 тысячы гарадзенцаў. Колькасьць жа беспрацоўных да канца года складзе 2,3 працэнта (4320 чалавек) працаздольнага насельніцтва.

Даходная і расходная часткі бюджэта горада на 1995 год аднолькавыя - 155,4 мільярда рублёў. 99,4 мільярда рублёў накіроўваецца на фінансаваньне сацыяльна-культурных устаноў, што складае 63,9 працэнта ўсяго аб'ёму бюджэту. У тым ліку расходы на адукацыю плануюцца ў памеры 49,3 мільярда рублёў, ахову здароўя - 46,2 мільярда, культуру - 737,2 мільёна, фізічную культуру - усяго 264 мільёны рублёў (для параўнаньня - асігнаваньні на ўтрыманьне сродкаў дзяржаўнай улады і кіраваньня прадугледжваюцца ў суме 1477 мільярда рублёў).

Па прагнозу і бюджэту адбыліся спрэчкі. Дэпутат Ю.Мацко ўказаў на неабходнасьць распрацоўкі навукова абгрунтаванай комплекснай канцэпцыі разьвіцьця горада. В.Чычагаў выказаў думку, што горад не зьяўляецца гаспадаром гарадзкіх прадпрыемстваў і паставіў пытаньне аб пераглядзе да 1 траўня ўласнасьці ў Горадні, каб вызначыць, што належыць гарадзкому, а што абласному Саветам. І.Палубок (пра гэта "Пагоня" пісала ў мінулым нумары) выступіў супраць кансервацыі будаўніцтва дзіцячай палікінікі. З улікам прапаноў дэпутатаў сесія адобрыла прагноз і прыняла за аснову бюджэт горада на 1995 год.

Практычна адзінагалосна былі таксама зацьверджаны праграма "Моладзь"; план работы гарадзкога Савета на першае паўгоддзе і палажэньне аб прэзідыуме гарсавета; аб спецыяльным пазабюджэтным фондзе; прынята рашэньне аб перадачы гарвыканкаму паўнамоцтваў у частцы адводу зямель і вырашэньні зямельных спрэчак; працягнуты яшчэ на год тэрмін дзеяньня праграмы прыватызацыі аб'ектаў камунальнай уласнасьці. Разглядалася пытаньне аб колькасьці выбарчых акруг: у новы склад гарсавета будзе абірацца 45 дэпутатаў, а не 125, як раней.

Затое дэпутаты не падтрымалі прапанову аб увядзеньні мясцовага збору на ўтрыманьне гарадзкога пасажырскага транспарту і ўпарадкаваньне горада. У адваротным выпадку ўжо з 1 сакавіка ўсе прадпрыемствы, арганізацыі, установы выплочвалі б 2 працэнты ад фонда аплаты працы за кошт прыбытку, што застаецца ў іх распараджэньні. Не была дадзена сесіяй згода і на ўстанаўленьне авансавых плацяжоў у сферы гандлю і паслуг. Прыватныя прадпрымальнікі павінны былі б частку свайго падатку выплочваць не па выніках года, а авансам.

Працяглая дыскусія адбылася па пытаньню статуса газеты "Гродзенская праўда". Г.Сысой прапаноўваў не мяняць склад заснавальнікаў да чарговых выбараў. І.Палубок нагадаў прысутным, што ў свой час яны прынялі рашэньне аб адшуканьні магчымасьцяў стварэньня выданьня гарсавета, і падтрымаў свайго калегу. Тым больш, што ва ўсіх абласных цэнтрах, акрамя Горадні, ёсьць газеты, заснавальнікамі якіх зьяўляюцца менавіта гарсаветы. Шэраг дэпутатаў выказваў думку, што зьмена складу заснавальнікаў будзе выгадна прэзідэнцкай "вертыкалі", бо робіцца напярэдадні перадвыбарчай кампаніі. Прагучала прапанова галасаваць па кожнаму заснавальніку па-асобку. Старшыня гарсавета Ф.Гудзей падтрымаў яе, але чамусьці паставіў на галасаваньне ўсіх разам. З 92 дэпутатаў, што прысутнічалі на паседжаньні, 61 (неабходная колькасьць для прыняцьця рашэньня - 60) прагаласаваў за тое, каб у склад заснавальнікаў газеты ўвайшлі абл- і гарвыканкам, працоўны калектыў "Гродзенскай праўды". І хаця з залы гучалі рэплікі, што неправільна зроблены падлік галасоў, ніхто не настаяў на перагаласаваньні.

У парадку дня сесіі было таксама пытаньне аб прысваеньні званьня ганаровага грамадзяніна горада ўдзельнікам Вялікай Айчыннай вайны Г.Арцем'еву, С.Іванову і В.Навумаву. Як высьветлілася, усе яны - выхадцы з Расеі і апынуліся ў Горадні пасьля вайны. Гэта выклікала незадаволенасьць у часткі дэпутатаў, і за кандыдатуру першага прагаласавалі толькі 57 чалавек. Зразумеўшы, што аналагічная сітуацыя паўторыцца з астатнімі, Ф.Гудзей вырашыў перанесьці разгляд пытаньня (ён патлумачыў гэта тым, што не ўсе дэпутаты прысутнічаюць у зале паседжаньняў). Яно было разгледжана ў канцы сесіі, і па ўсіх кандыдатурах прыняты станоўчыя рашэньні.

А.ДУК.

## КАЛІ НІЗЫ ХОЧУЦЬ, А ВЯРХІ НЕ МОГУЦЬ...

Першага сакавіка на Лідзкім ліцейна-механічным заводзе ўзьнік стыхійны мітынг. Прычыны: нявыплата зарплаты пачынаючы са сьнежня 1994 года, махінацыі адміністрацыі з грашыма і незадаволенасьць дырэктарам. Ініцыятарам мітынгу выступіў прафкам завода.

Адміністрацыя адрэагавала імгненна, заявіўшы аб гатоўнасьці выплаціць зарплату за сьнежань сёньня ж.

Але рабочым дарадзілі сябра Лідзкай гарадзкой рады БНФ спадар Куроўскі і сябра БНФ спадар Півута. Пасьля чаго рабочыя запатрабавалі зарплату за сьнежань з улікам 30% інфляцыі за кожны месяц. Разам з тым яны запатрабавалі расьследаваць фінансавую і камерцыйную дзейнасьць адміністрацыі, вырашылі стварыць у кожным цэху страйкамы і выказалі недавер дырэктару завода спадару Шышкіну.

У выніку ўзьнікла пагадняльная камісія, якая мусіць развязаць супярэчнасьці.

Між іншым, вахцёру, які прапусьціў на тэрыторыю завода сяброў БНФ, пагражае звальненьне.

Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.

## ХТО СПЫНІЦЬ ВАКХАНАЛІЮ



Расьліннасьць поймы ракі Котра надзвычай разнастайная. Растуць тут вольхі, бярозы, дубы, сосны, ялінкі, вербалоз і шмат іншых дрэў. Карнявішча дрэў рэгулюе воды рэжым русла.

На жаль, зараз многія з дрэў бязьлітасна зьнішчаюцца. Асабліва шмат пасечана, папілавана іх непадалёк ад вёскі Галавачы(на здымку). Але ні ва ўпраўленьня сельскай гаспадаркі райвыканкама, ні ў кіраўніцтва калгасу "Азёры" няма жаданьня спыніць гэтую вакханалію. Ведаюць аб гэтым і ў інспекцыі па экалогіі, ды таксама са свайго боку нічога не робяць.

Фатаграфаваў І.БАРЫСАЎ.

## ГАЗАПРОВАД З ЯМАЛА Ў ПОЛЬШЧУ ІДЗЕ ПРАЗ БЕЛАРУСЬ

Не першы раз польскае тэлебачаньне і радыё адчыняе нам вочы аб праўдзівых намерах Расейскай дзяржавы, асабліва ў сэнсе геапалітыкі і палітыкі гандлю энерганосьбітамі. Кароль "Газпрама" - Віктар Чарнамырдзін - 18 лютага падпісаў з польскім бокам пратакол аб будаўніцтве газапровада з Ямала праз Польшчу да Эўропы.

Ад беларускай вёскі Кандрацэнкі да нямецкай мяжы 750-кіламетровую трубу зьбіраюцца будаваць расіяне, якім за шкодную для здароўя вытворчасьць прадугледжаны ільготы і ільготнае падаткаабкладаньне. Праца пачнецца ўвесну бягучага года і будзе фінансавацца пераважна расейскім капіталам. Цікава, што Чарнамырдзін вельмі націскаў на манапольнае будаўніцтва расейскімі прадпрымальнікамі, але ж палякам "аддалі" 15% долі фінансаваньня. Таксама не атрымаў "Газпрам" права на размеркаваньне і продаж блакітнага паліва непасрэдна польскім спажыўцам. Але ж галоўным набыткам польскай гаспадаркі стаў абавязак расейскіх газаздабытчыкаў паставіць 14 млрд.кубаметраў газу за карыстаньне газапровадам.

А што ж Беларусь? Яе як бы і няма ў гэтым пагадненьні і ў гэтым геапалітычным разьліку. Відаць, транзіт будзе без усялякай карысьці нашай занядбанай эканоміцы. І гэта зразумела, бо гаспадарчыя якасьці нашых кіраўнікоў знаходзяцца на калгасным узроўні, дзе, як вядома, парадку ніколі не было, ды і не будзе. Але ж многія з іх лічаць сябе палітыкамі, ды яшчэ і інтэрнацыяналістамі. Як жа тады зразумець гэты безхрыбетны дазвол на будаўніцтва газапроваду, які фактычна абыззбройвае Украіну ў яе барацьбе з тым жа "Газпрамам" і выключае з працы газавую трубу, якая сёньня адзіна магчымая для экспарту расейскага газу праз Славакію і Чэхію ў Эўропу. Як жа мы будзем глядзець адзін другому ў вочы? Зразумела, чаму расейскія газаўладальнікі так прысьпяшаюць справы. А Беларусь для іх толькі траса для газавай трубы, самая выгадная і недакорлівая.

Міхась ЯВАР.

## БЕЛАРУСКІ ЛІДЭР БЕСПРАЦОЎЯ

Берасьце - лідар сярод вабласных гарадоў рэспублікі па беспрацоўю. Ужо сёньня тут на адно вакантнае месца працы прэтэндуюць 4 чалавекі.

Па прагнозах гарадзкога цэнтра занятасьці ў Берасьці на рынку працы чакаецца 29 тысяч 750 беспрацоўных.

З іх каля 2 тысяч выпускнікоў школ горада і 3645 чалавек - моладзь, якая скончыць навучальныя ўстановы і не зможа працаўладкавацца. Значную прыбаўку у 1995 годзе дадуць звольненыя па прычынах цякучасьці кадраў і скарачэньня рабочых месцаў 14700 чалавек.

Скарачэньне ідзе пераважна за кошт сацыяльна неабароненых слаёў насельніцтва моладзі і жанчын.

Л.ЯСЕНЬ.

## ЗОНА ПАВЫШАНАЙ УВАГІ - СЭЗ «БЕРАСЬЦЕ»

**Пункт аб стварэньні свабоднай эканамічнай зоны "Берасьце" ўключаны ў антыкрызісную праграму беларускага прэзідэнта, але рэалізацыя праекта магчыма пры прыняцьці ў другім чытаньні Закона аб свабодных эканамічных зонах. Рашэньнем аблвыканкама вызначаны канкрэтныя межы СЭЗ "Берасьце" на плошчы 6134 гектары і ўнесены прапановы ў ВС РБ аб яе зацьвярджэньні.**

Абраны эканамістамі і ўладамі адзін з яе прапанаваных у 1992 годзе варыянтаў яе разьмяшчэньня зараз натыкаецца на важкія аргументы эколагаў, якія супраць насаджэньня прадпрыемстваў СЭЗ "Берасьце" у вызначаным рэгіёне. Перш за ўсё, разглядаемая зона, ў сілу свайго разьмяшчэньня, выконвае, па сутнасьці, ролю "зялёных лёгкіх" горада, сюды ж уваходзіць чыстая зона адпачынку па рацэ Лясная, на абмежаванай плошчы назіраецца разьвітая мазаічнасьць рэльефа, нараджаючая мноства расьлінных мікраасацыяцый: каля 400 відаў толькі вышэйшых расьлін. У сувязі з экалагічнай каштоўнасьцю тэрыторыі тут планавалася стварэньне ландшафтна-гідралагічнага заказьніка. Нельга не ўлічваць блізкасьць гарадзкога вадазабору (адкуль паступае 30 працэнтаў пітной вады).

Польскія эколагі праяўляюць значную цікавасьць да сваіх адпаведных тэрыторый і ўключаюць памежныя плошчы ў прыродна-ахоўваемыя тэрыторыі, да прыкладу: нацыянальны парк "Падляская разьвіліна Буга". Акрамя таго, дацэнт кафедры гісторыі БрДПІ С.Жалоба указвае на каштоўныя археалагічныя знаходкі эпохі стаража́тнейшай Зарубінецкай культуры (2 ст. нашай эры), што прымушае меркаваць аб існаваньні ў гэтых месцах старажытных паселішчаў. З-за працяглай рэжымнасьці памежнай зоны археалагічныя дасьледаваньні тут ніколі не праводзіліся.

Даволі своечасова ў СЭЗ "Берасьце" забіты экалагічны клін: пакуль не вызначана канчаткова статус зоны, не аформлена яе юрыдычнае абгрунтаваньне.

СЭЗ "Берасьце" плануецца разьмясьціць на землях Берасьцейскага раёна, якія прымыкаюць да беларуска-польскай мяжы ў раёне вёскі Казловічы. Тут будуць разьмешчаны заводы аўтамабілебудаваньня і сродкаў электронікі, шэраг іншых.

Эколагі і грамадзкасьць лічаць найбольш аптымальным і зручным варыянт інс БелНДІ горадабудаўніцтва, згодна якому СЭЗ будзе разьмешчана ў раёне грузавога двара Кошалева - аэрапорт. Тут найменшыя экалагічныя страты, спрашчаецца будаўніцтва многіх інжынерных структур, разьмяшчэньне аб'ектаў СЭЗ. Спрыяе і блізкасьць транспартных артэрыяў: аўтадарогі Менск-Берасьце-Варшава, вузкакалейнай чыгункі, аэрапорту. Пры гэтым удаецца пазьбегнуць вялікіх выдаткаў на абарону тэрыторыі ад затапленьня.

Выдатныя перспектывы адкрываюцца са стварэньнем эканамічнай зоны ў вобласьці - вырашаецца праблема занятасьці насельніцтва, насычэньне рынку таварамі...

Яшчэ ў мінулым годзе ў інтэрв'ю мясцоваму друку старшыня камітэта па кіраваньню СЭЗ "Берасьце" спадар Мікалай Крывецкі выказаў думку, што прыйшоў час зьняць з архіўнай паліцы план па пераўтварэньню Заходняга Буга ў сплаўную раку, які распрацаваны польскімі спецыялістамі і існуе з 1953 года. Падтрыманы ён быў і нашымі распрацоўшчыкамі ў 1977 годзе.

Да друку падрыхтаваў Пятро ПАДБЯРЭЗСКІ.



# СУМЕЖЖА

## ІДЭАЛОГІЯ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА У ЛЕТУВЕ

Раскошныя машыны - гэта пуцяводная зорка ў Летуве. "Аднак, калі летам 1993 года ў іншамаркі самых новых мадэляў перасели разбагацеўшыя гандляры металам, нафтай і бавоўнай, дык цяпер да раскошных машынаў прымяраюцца дзяржаўныя мужы, аднак ужо за кошт падаткаплацельшчыкаў," - так пачынае артыкул адна з самых папулярных газет у Летуве "Летувос ритас" і дадае, што ў зводках паліцыі пра крадзёж аўтамабіляў за апошнія тыдні не відаць сярод уладальнікаў прадпрымальнікаў. Украдзены тры "Вольва-850", на якіх раз'язджалі кіраўнікі датуемага з бюджэту дзяржаўнага прадпрыемства спецыфічнага прызначэньня "Летувос гяляжынкяляй". Украдзены БМВ міністра аховы здароўя і "Аўдзі" міністра сувязі і інфарматыкі.

Гэта набыткі толькі апошніх тыдняў. Пра куплю для членаў Сойму ўжо і не гаворыцца. Не шакіруюць ужо аўтамабілі міністра аховы краіны, якія зьмяняюцца ў залежнасьці ад колеру касьцюма.

Прэстыжныя машыны прэзідэнта і прэм'ер-міністра - справа зразумелая. Напэўна, народ мог бы зразумець і апраўдаць набыцьцё добрых машын паліцыяй. Аднак такая пагалоўная аўтамабілізацыя чыноўніцтва, якая адбываецца ў Летуве, нагадвае хутчэй за ўсё баль падчас чумы.

У Летуве так і не адмовіліся ад наменклатурнай сістэмы, якая прывязвае чалавека да крэсла кіраўніка, калі, напрыклад, міністр атрымлівае зарплату, якая меншая за грашовую дапамогу па беспрацоўю ў Нямеччыне, аднак яму дазваляецца езьдзіць на машыне, якая не па кішэні нават добраму нямецкаму прадпрымальніку. Вось чаму большасьць наменклатуршчыкаў, якія пасьпяхова распачалі свой бізнэс, пры нагодзе вяртаецца ў мытню або міністэрства.

"Аднак вернемся да пуцяводнай зоркі" - піша "Летувос ритас". Павінна ж было нешта здарыцца, каб чыноўнікі ў раскошных машынах пачалі замяняць прадпрымальнікаў?

Маладыя хлопцы, якія з жабракоў сталі за паўгода мільянерамі, лічылі, што манна, ў выглядзе каляровых металаў, будзе падаць з неба ўсё жыцьцё. А паварот тым часам быў вельмі круты. Яны не справіліся з вырульваньнем машын бізьнесу. Адны збанкрутавалі і ўцяклі ў Расею, іншыя сядзяць у турме на Лукішках, яшчэ нехта пакончыў з сабой.

Гэта хваравітыя, але натуральныя працэсы, праз якія, як праз чысьцец, павінны прайсьці ўсе посткамуністычныя краіны. Аднак найболыш дрэннае, што гэтыя рыцары посьпеху і няўдачы пацягнулі за сабой дзесяткі, а можа і сотні тысячаў грамадзян, якія ліхаманкава вучыліся жыць з працэнтаў.

Апёкі пакідаюць шрамы. Не для аднаго летувіса капіталізм памёр на ўсё жыцьцё разам з парай соцень долараў, якія беззваротна патанулі ў дрыгве розных фірмаў і кампаніяў.

Улада маланкава выкарыстала гэты момант. Усіх прадпрымальнікаў, незадаволеных падаткавай палітыкай і, увогуле, гаспадарчай палітыкай, абвінавацілі, што яны не плацяць падаткаў, а гэта значыць, што крыўдзяць настаўнікаў, пенсіянераў і іншых грамадзян, якія існуюць за кошт бюджэту.

Свае грахі (падман партнёраў і спакушэньне пенсіянераў) улады таксама пакінулі ўсім прадпрымальнікам і ўсяму капіталу. Урад і Сойм ухмыляюцца - вось вам і прыватнае страхаваньне пенсіянераў: ні пенсіяў, ні грошай.

Постсацыялістычная ўлада куе жалеза пакуль яно гарачае не для таго, каб палепшыць становішча пенсіянераў. З дадаткова выціснутых грошай купляюцца раскошныя машыны і іншыя, не зусім патрэбныя для краіны, рэчы. Проста ўладзе стала лягчэй кіраваць. Толькі ўвесь капітал, нават самы дробны, можа вымусіць уладу весьці сябе прыстойна.

"А пакуль - няхай жывуць новыя БМВ чыноўнікаў!" - заканчвае газета.

Уладзіслаў **СТРУМІЛА**.

## БЕЛАРУСЫ Ў ПОЛЬШЧЫ

Кандыцыя беларускага спорту мала каго захапляе, і многія спартоўцы шукаюць магчымасьцяў самарэалізацыі ў спартовых клубах больш заможных краінаў.

У Польшчы аматарскі спорт скончыўся адным махам у 1980 годзе. І як толькі нашыя суседзі пачалі капіталістычныя рэформы, спартоўцы-"аматары" імгненна пераўтвараліся ў прафесіяналаў. Зарабляць грошы і быць багатым ужо не было заганай, і калі раней на Захадзе сістэма выкарыстоўваньня замежных спартоўцаў мела месца, то ў Польшчы першыя замежнікі зьявіліся нядаўна.

Цяжка паверыць, але першым запрасіў да сябе замежных спартоўцаў Беластоцкі клуб "Ягелёнія", дзе ў 1990 годзе зьявіліся летувісы Мацкавічус ды Каспаравічус. Гэта была вялікая сенсацыя. Упершыню на польскіх спартовых пляцоўках зьявіліся "Stranieri".

### КАГО СТРАЦІЎ НАШ СПОРТ

Дзьве валейбалісткі Сьвятлана Студняж і Тацьцяна Крывашэева прадстаўляюць клуб "Праса" з Пілы. Польскі ручны мяч прадстаўляюць Сьвятлана Стражко (клуб "Сасьніца" з Гліўіцаў), Галіна Лотарава ("Монтэкс" - Люблін) ды Уладзімір Саўко ("Вісла" - Пулавы). Расьсеяўся па Польшчы і цэлы тузін нашых баскетбалістаў. Сярод іх ёсьць і сапраўдныя зоркі, такія як Ігар Грышчук, што гуляе за клуб "Нобілес" - Улацлавэк, Алена Федарак ("Улакняж"-Беласток) ды Алена Ламака ("Сьлензу" з Уроцлава). Розныя футбольныя клубы прадстаўляюць Сяргей Міхайлаў, Юры Малееў, Аляксандр Мазгавы, Андрэй Забіякін ды Іван Польны. Яшчэ два футбалісты - Андрэй Скарабагацька ды Алег Конанаў - паказваюць, на што яны здольныя ў клубах"Алімпія-Больпляст" з Познаня ды "Рух" з Хожава, і цалкам магчыма, што з імі хутка падпішуць кантракт. Юры Клачко прадстаўляе хакейную каманду клуба "ТТХ" з Торуня. Айчынны настольны тэніс страціў не толькі некалькіх майстроў (Вольга Скуратовіч, Алена Каўтун, Сяргей Азважскі), але і трэнера Валянціна Баравіка, які цяпер дзеліцца дасьведчаньнем са спартоўцамі клубу "Спулдзелец" у горадзе Плоцку.

Баксёр Генадзь Старушэнка ("Паленія" - Сьвідніца) ужо ажаніўся з полькай, і просіць уладаў пра магчымасьць атрымаць польскае грамадзянства. Гэткія ж намеры мае Ігар Грышчук. Гарадзенец Ян Хітрушка, паляк па нацыянальнасьці, што выступае ў вольнай барацьбе за клуб "Чачот-Валяна" з Тыхаў, таксама імкнуўся атрымаць пашпарт з белым арлом у залатой кароне, але яму адмовілі.

Можна толькі здагадвацца, што кіруе спартоўцамі, якія хочуць зьмяніць грамадзянства. Адны ідуць за грашыма, другія, як Ян Хітрушка, адчуваюць сябе палякамі, трэція спадзяюцца на славу, якой не дачакаліся ў сваёй краіне...

Здавалася б, дзіўная рэч: Эўропа злучаецца, рушачы бар'еры між дзяржавамі, ды й спорт, як вядома, ніколі не ведаў ні межаў, ні грамадзянстваў, аднак людзі ёсьць людзі. Між тым спорт надалей застаецца важным элементам нацыянальнай сьвядомасьці гэтых людзей. Памятаю, як у мінулым годзе валейбольная каманда "Алімпія" з Познаня ўвайшла ў фінал Кубка Эўропы сярод жанчын. Уся Польшча глядзела на тэлеэкраны затаіўшы дыханьне: "Як там нашыя дзяўчаты?" А сярод гэтых дзяўчат былі Лілія Малая, Алена Мішына, Алена Швайбовіч.

БЕЛАРУСКІЯ СПАРТОЎЦЫ Ў ПОЛЬШЧЫ

| *Дысцыпліна* | *колькасьць* |
|---|---|
| Баскетбол | 12 |
| Футбол | 5 |
| Ручны мяч | 3 |
| Настольны тэніс | 3 |
| Валейбол | 2 |
| Бокс | 2 |
| Хакей на лёдзе | 1 |
| Цяжкая атлетыка | 1 |
| Барацьба | 1 |

дадзеныя на канец 1994 года.

Цікава, пра што думаюць тры дзесяткі беларусаў ды беларусак у радасныя моманты ўзьняцьця пераможнага бел-чырвонага сьцягу? Пра падабенства колераў? Не ўпэўнены. Ды і як тут быць упэўненым, калі нават шаноўны наш Шура, заблукаў між двума сьцягамі - расейскім і нашым - як між дзьвюма бярозамі?

Але адкінем непатрэбную палітыку. Памылкай было б асуджаць нашых спартоўцаў за іх цяжкую працу замежных камандах. Наадварот, трэба цешыцца, што яны далі рады атрусіць з сябе "аматарскі" пыл савецкага спорту, і выгадна прадаюць свае здольнасьці. Беларускія клубы павінны вучыцца ў сваіх выхаванцаў спорту і менеджэрскім навыкам - пакуль не позна. Бо інакш спартовыя зоркі калі і будуць сьвяціць, дык не нам.

Аляксандр **АЙНА**.

**Кансультацыя: Кшыштаф Ясьнёк ("Пшэгленд спартовы")**

## «МЫ, КІНАРЭЖЫСЁРЫ, СТРАЦІЛІ РЫТМ ЖЫЦЬЦЯ...»

**Прозьвішча Алмантаса Грыкявічуса 20 гадоў таму назад вымаўлялі побач з прозьвішчамі В.Жалакявічуса, А.Жабрунаса, Р.Вабаласа. Гэта былі "залатыя дні" летувіскага кіно. Ён ставіў фільм за фільмам, і ні адзін з іх не застаўся не заўважаным. І вось з 1987 года пра яго нічога не чуваць. Чаму? Такое пытаньне задала газета "Рэспубліка".**

- У 1991 годзе я зрабіў дакументальны фільм "Малітва за Летуву" пра падзеі 13 студзеня (захоп савецкім войскам тэлевежы, Дома прэсы, радыё і тэлебачаньня.) Хаця за апошнія гады я не паставіў ні воднага мастацкага фільма, я працую, - адказаў рэжысёр. - Я дапамагаў В.Жалакявічусу, калі ён захварэў, працуючы над стужкай "Уік-энд у пекле", пісаў. Цяпер у мяне ёсьць шэсьць сцэнараў па творах "Сенакос" К.Алмена, "Пайшоўшыя не вернуцца" М.Каціліпікіса. "Час леапарда" шведзкага пісьменьніка П.У.Энквіста, па творчасьці А.Камю. Паводле раманаў Кановіча (віленскі яўрэйскі пісьменьнік, які выехаў нядаўна ў Ізраіль) я напісаў сцэнар пяцісерыйнага фільма. Я адчуваю безнадзейнасьць, бо пастаянна нараджаць мёртвых дзяцей вельмі цяжка...

- Не працуе ўсё старэйшае пакаленьне рэжысёраў, за выключэньнем В.Жалякявічуса, - працягвае Алмантас Грыкявічус. - І не таму, што не могуць. Мы пішам сцэнары, амаль пра ўсё дамаўляемся, аднак... кесарава сячэньне - і фільмаў няма. Гэта трагедыя для нашага кіно. Здаецца, І.Бергман сказаў, што рэжысёр павінен або глядзець фільмы, або іх рабіць. Калі доўга не падыходзіць да камеры, праз нейкі час ужо можа не атрымацца...

- А мы калісьці думалі, што летувіскае кіно надоўга захаваецца на стужках, - гаворыць рэжысёр. - І жорстка памыліліся, бо Летувіская рэспубліка не змагла дамовіцца з Масквой каб вярнуць негатывы ўсіх 100 летувіскіх фільмаў. Цяпер на Летувіскай кінастудыі, а яна практычна не працуе, ёсьць толькі некалькі абарваных копіяў, якія некалькі разоў у год возяць за мяжу. А што павязуць, калі і гэтыя парвуцца? Тое летувіскае кіно, якое было створана, хутка зьнікне, як і жыцьцё, якім мы жылі, а сказана і зразумела было шмат, хоць летувіскае кіно і гаварыла эзопаўскай мовай.

- Я быў сьведкам некалькіх гадоў жыцьця Летувы пры А.Сьмятоне, вайны, пасьляваенных гадоў, будаўніцтва сацыялізму і сёньняшніх дзён. Колькі пераломаў! Падчас жыцьця майго пакаленьня трэба было зразумець час. А сёньняшні - вельмі своеасаблівы. Мы - прыгонны народ, які перажыў 5-гадовае рабства, аднак сёньня кожны чалавек унікальны, ён шукае свой шлях, мяняецца паняцьце сям'і, этыкі, маралі...

- Мяркую, што маю што сказаць пра сёньняшні дзень, - разважае рэжысёр, - але... Няма грошай, і ўсе ідэі, энергія застаюцца ў межах майго рабочага кабінета. Такое жыцьцё, быццам у закрытай клетцы, абарочваецца, часам, агрэсіяй супраць самога сябе, блізкіх людзей, якія ні ў чым не вінаватыя. Мы, кінарэжысёры, страцілі рытм жыцьця...

- Стараюся падтрымліваць надзею стварыць хоць адзін яшчэ фільм, але ўсё залежыць ад грошай. Магчымасьці, здаецца, ёсьць, аднак баюся нават рот раскрыць, каб зноў усё не прапала...

## РАСЕЯ

### МАСКВА

"Русским - русское правительство!", "Долой русофобство и жидомассонство!" - пад такімі лозунгамі пятага сакавіка на Тэатральным пляцы адбыўся мітынг прадстаўнікоў розных нацыяналістычных арганізацыяў Масквы. Мітынг прысьвечваўся 42-ой гадавіне сьмерці Сталіна. Выступоўцы крытыкавалі ўрад Расеі, згадваючы, што "практычна ўсе міністры ўраду - габрэі".

Цікава, што з трохсот мітынгоўшчыкаў, каля паловы былі камуністы-ветэраны.

* * *

Міжнародны Камітэт Чырвонага Крыжа (МКЧК) не можа выконваць свой мандат у зонах збройнага канфлікту ў Чачні. Галоўная прычына выклікана тым, што расейскія федэральныя войскі, у асаблівасьці ў Дагестане, з 21 лютага блакуюць праходжаньне ўсіх відаў гуманітарнай дапамогі на поўдзень Чачні.

На сучасным этапе ў зоне баявых дзеяньняў на Паўночным Каўказе працуюць 60 замежных і 87 мясцовых супрацоўнікаў МКЧК. Для аказаньня дапамогі на шэсьць месяцаў бягучага года МКЧК выдаткаваў 43 мільёны долараў.

Гэтая сума будзе выкарыстана на падтрыманьне больш як 400 тысяч бежанцаў.

* * *

"Факты масавага зьбіваньня і жорсткага абыходжаньня з людзьмі ў расейскіх фільтрацыйных лагерах падцьвердзіліся", - адзначалася на прэс-канферэнцыі ўдзельнікаў дэлегацыі, якая нядаўна вярнулася з Чачні. Яна адбылася 6 сакавіка ў памяшканьні таварыства "Мемарыял".

Удзельнікі прэс-канферэнцыі расказалі аб парушэньнях правоў чалавека, якія мелі месца ў фільтрацыйных пунктах, а таксама з боку расейскіх вайскоўцаў.

* * *

Узяць у свае сем'і ахвяры вайсковых дзеяньняў у Чачні заклікаюць удзельнікі Марша медыцынскага спачуваньня.

"Дзесяткі тысяч загінуўшых, дзесяткі тысяч параненых, сотні тысяч застаўшыхся без прытулку, без сродкаў да існаваньня, разбурэньне сям'і - мноства адзінокіх і няшчасных, аглушаных адбыўшымся людзей - такія некаторыя вынікі вайны, разгорнутай злачыннымі кіраўнікамі Расеі," - адзначаецца ў распаўсюджаным 6 сакавіка звароце ўдзельнікаў марша. Яго аўтары лічаць, што "адзіная магчымасьць дзеля таго, каб не на словах, а на справе дапамагчы спакутаваным людзям - гэта, пацясьніўшыся, узяць іх у свае сем'і".

Зараз у Маскве стварaецца Цэнтр арганізацыі груп бежанцаў і сірот і размеркаваньня іх па сем'ям.

### УЛАДЗІВАСТОК

Сумесная расейска-амерыканская камісіі па пошуку зьніклых без вестак у гады карэйскага і ўетнамскага канфліктаў амэрыканскіх вайскоўцаў пачала сваю работу на Далёкім Усходзе. Пра гэта 6 сакавіка аб'явіла Генеральнае консульства ЗША. Камісія мае намер вывучыць магчымасьць знаходжаньня ў савецкіх канцлагерах амэрыканскіх лётчыкаў, зьбітых падразьдзяленьнямі СПА у 1950-1965 гады. Па сьведчаньню амэрыканцаў, размова ідзе больш чым пра 60 афіцэраў і сяржантаў.

(Э.-Х.)







# ВЯРТАНЬНЕ ЛІДЗКАГА ЗАМКУ

**Выдатны беларускі гісторык Міхась Ткачоў у сваіх дасьледаваньнях і працах пераканаўча паказаў, што гісторыя Беларусі - гэта гісторыя войн, якія праз невялікія перапынкі ішлі то ў адзін, то ў другі бок.**

**Тым не меньш, зямля наша дала сьвету вялікіх людзей, такіх як Скарына, Сапега, Будны, Дамейка, Купала, Колас і многіх другіх, якія ўнеслі значны ўклад у навуку, культуру, пакінулі добры сьлед на зямлі. І не толькі гэта. Яны цьвёрда стаялі на нацыянальным груньце, дбалі пра дабрабыт людзей, былі сапраўднымі патрыётамі нашай зямлі.**

Аб тым, што продкі нашы маглі добра тварыць гаворыць і тое, як ішло ўтварэньне гарадоў, паселішчаў і абарончых збудаваньняў на нашай зямлі. Не выпадкова, а грунтоўна прадумана павяліся Полацк, Горадня, Навагрудак, Менск. Яны паўсталі не толькі на шляхах зносін, а ўдала ўпісваліся у навакольнае прыроднае асяроддзе. А узяць хаця б пабудову абарончых збудаваньняў у Лідзе, Крэве, Троках, Медніках і Навагрудку. Пабудаваныя па ўсіх правілах фартыфікацыі за часы праўленьня Вялікага князя Гедыміна, яны на працягу многіх гадоў верна служылі сваёй дзяржаве, ратавалі людзей ад нашэсьцяў многіх заваёўнікаў. А будавалі іх не якія там прышэльцы, а мясцовыя тутэйшыя людзі і ўсё стваралася з мясцовых матэрыялаў: жвіру, каменьня, вапны і цэглы.

Гэтыя збудаваньні стварылі добра прадуманую, моцную сістэму абароны ўсяго краю, добра спрыялі ўмацаваньню магутнасьці і пашырэньню ўплыву нашай старажытнай дзяржавы - Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага.

У гэтым артыкуле хачу засярodзіць увагу на адным з самых вялікіх на тэрыторы Беларусі абарончых збудаваньняў XIV стагоддзя - Лідзкім мураваным замку. На працягу многіх гадоў мне давялося прымаць удзел у работах, зьвязаных з дасьледаваньнем і аднаўленьнем гэтай цікавай пабудовы.

Будаўніцтва замка, як сьведчаць многія крыніцы, пачалося ў 1323 годзе нашым Вялікім князем Гедымінам, які, скарыстаўшы часовае перамір'е з крыжацкім Ордэнам, пачаў ствараць абарончую сістэму ўсёй краіны. Для пабудовы Лідзкага Замка было абрана месца ў балоцістай нізіне на невялікай пясчанай выспе пры ўпадзеньні рэчкі Каменкі ў раку Лідзею. Для таго, каб стварыць з паўночнага боку замка запоўнены вадой роў, давялося выспу падсыпаць жвірам на 5-6 метраў і на гэтай падсыпцы ўзводзіць сьцены.

Замак у плане - гэта чатырохкутнік няправільнай формы з дзьвюма вежамі у супрацьлеглых кутах. Памер унутранага двара складае прыкладна 80х80, а вежаў - 10х10 метраў. Сьцены замка пабудаваны з палявога каменьня, які зьбіралі ў ваколіцах, і цэглы. Таўшчыня сьцен унізе - 2 метры, паступова звужаецца да 1,5 метра. Далей сьцены пераходзяць у баявую галерэю з вокнамі-байніцамі, якая зьверху закрывалася духоўкай. Унутры двара, ля сьцен, былі прыбудаваны аднапавярховыя будынкі, якія служылі жыльлём для вояроў і абслугі.

Гістарычны лёс Лідзкага замка надзвычай складаны. У XIV стагоддзі яго муры не раз вытрымлівалі націск крыжакоў. Упершыню яны зьявіліся пад замкавымі сьценамі ў 1384 годзе і захапілі замак. Другі раз набег быў зроблены зімой 1392 года, і зноў захапілі яго. Праз два гады крыжацкія войскі зноў зрабілі спробу захапіць замак, але на гэты раз былі разьбіты і замак выстаяў. Дасталося Лідзкаму замку пад час міжусобных войнаў у XV стагоддзі. У XVI стагоддзі да замка падышлі орды крымскіх татар, аднак штурмаваць замак яны пабаяліся, хаця ў наваколльі ішлі зацятыя баі. Затым, на нейкі час, войны спыніліся і пачалося адносна спакойнае жыцьцё. Усё разбуранае і пашкоджанае у замку забудоўвалася, аднаўлялася, умацоўвалася. У сярэдзіне XVII - пачатку XVIII стагоддзя мірнае жыцьцё Ліды зноў было спынена войнамі.

Летам 1659 года замак з усіх бакоў аблажыла войска царскага ваяводы Мікіты Хаванскага, які захапіў і значна пашкодзіў Замак.

Але больш за ўсё дасталося Лідзкаму замку ў час Паўночнай вайны Расеі са Швецыяй.

Шведы на пачатку XVIII стагоддзя падышлі да Ліды і пасьля працяглага бою захапілі замак.

Імі былі узарваны дзьве вежы і два супрацьлеглыя вуглы сьцен, а ўнутраныя драўляныя пабудовы спалены. З гэтага часу замак страціў сваё абарончае значэньне і практычна не аднаўляўся, таму што дзяржава Беларуская - Вялікае княства Літоўскае - паступова пачала слабець, а ў выніку палітычных зьмен праз некаторы час адышла пад уладу Расеі. Новым уладам да аднаўленьня замка не было ніякай цікавасьці.

Ішоў час. Замак усё далей і далей разбураўся і адыходзіў у гісторыю. І толькі мастакі і гісторыкі паступова сталі праяўляць да яго цікавасьць. Менавіта дзякуючы ім, да нас дайшлі яго першыя замалёўкі і апісаньні. Яго малявалі Іосіф Пешна, Напалеон Орда і другія мастакі. Дэталёва гісторыю замка і горада вывучаў Тэадор Нарбут.

У сярэдзіне XIX стагоддзя абмеры і замалёўкі муроў замка зрабілі рускія вучоныя, а ў канцы гэтага стагоддзя паявіліся першыя фотаздымкі замка. У пачатку XX стагоддзя перад першай сусьветнай вайной была зроблена спроба кансервацыі рэштак муроў.

У 20-я гады, калі па Рыжскаму дагавору Заходняя Беларусь трапіла пад уладу Польшчы, польскімі будаўнікамі былі часткова закладзены паўднёва-заходні і паўднёва-усходні вуглы, а на месцы паўночна-заходняга зьявіліся драўляныя вароты, праз якія можна было трапіць на тэрыторыю ўнутранага двара.

Пасьля Вялікай Айчыннай вайны у 1953 годзе замак увайшоў у сьпіс помнікаў гісторыі і архітэктуры і быў узяты пад ахову дзяржавы.

У 1970 годзе першыя дасьледаваньні на замкавым двары зрабіў вядомы беларускі гісторык Міхась Ткачоў.

У гэты час з бурным ростам забудовы горада рэшткі муроў Замка мелі сумны выгляд.

На розных узроўнях пачало ўзьнімацца пытаньне аб рэстаўрацыі гэтага каштоўнага помніка гісторыі. З ініцыятывы выканкама гарадзкога Савета дэпутатаў спецыяльнымі навукова-рэстаўрацыйнымі майстэрнямі г.Менска пачаліся дасьледчыя работы і работы па складаньню праекта. Было гэта ў 1975 годзе. Узначалілі гэтую працу Алег Трусаў, які вёў дасьледчыя археалагічныя работы і зьбіраў зьвесткі пра замак з розных крыніц, і Сяргей Багласаў, які, як архітэктар, распрацаваў праект аднаўленьня Замка і прыстасаваньня для культурных і гаспадарчых патрэб горада. Распрацоўку добраўпарадкаваньня вакол замка і прылягаючых кварталаў узяў на сябе тагачасны галоўны архітэктар горада Анатоль Пархута. Для аднаўленьня разбуранага была створана спецыяльная брыгада рэстаўратараў. Кіраваў усімі работамі майстар Іосіф Мацойка.

Усё гэта ў нядоўгі час пачало даваць свой добры плён. Паступова былі аднoўлены ўсе вуглы, пачалася рэстаўрацыя сьцен і вежаў. Вакол замка і на прылягаючай тэрыторы рабілася добраўпарадкаваньне.

На сёньняшні дзень прыведзены ў належны стан паўднёвая, усходняя і паўночная сьцены. Пакуль што не закончана заходняя сьцяна і паўднёва-заходняя вежа. Аднак, у апошні час у сувязі з катастрафічнай нястачай сродкаў, работы амаль спынены. Не пачыналіся работы па добраўпарадкаваньню ўнутранага двара. Дзе ж выйсьце з гэтага становішча? Хаця Лідзкі замак па аб'ёму не роўня Нясвіжскаму ці Мірскаму, але па сваёй гістарычнай значнасьці ён не меней каштоўны. Думаецца, трэба зьвярнуцца да міжнароднай супольнасьці. А можа яшчэ лепей было б наладзіць кантакт з грамадзкасьцю Швецыі. Усё такі замак прыйшоў у занядад падчас вайны Расеі са Швецыяй, калі войскі Карла XII узарвалі яго. Гэты кантакт павінен быць не на груньце якіхсьці патрабаваньняў ці прэтэнзій. Не. Па нашай зямлі праляглі гістарычныя шляхі шведаў. У Беларусі захаваліся і шведзкія горы, і шведзкія курганы, і прозьвішчы Швед.

Перыяд гэты ў нашай гісторыі вывучаны слаба. Добра было б сумеснымі намаганьнямі вучоных абодвух бакоў вывучыць той час, распрацаваць утрысцкія маршруты па месцах былых баёў і сумеснымі намаганьнямі завяршыць рэстаўрацыю замка.

Напэўна, ён стане добрым аб'ектам для паказу турыстам, якія з кожным годам усё болей наведваюць наш край.

І апошняе. Сярод абарончых збудаваньняў XVI стагоддзя Лідзкі замак - гэта першынец, які атрымоўвае сваё адраджэньне. Няхай гэта будзе добрым прыкладам і добрым пачаткам для Крэва, Навагрудка і другіх мясьцін, зьвязаных з сівой даўнінай нашага краю. Такая спадчына - гонар нацыі, той корань, які сваім сокам жывіць і нашу памяць, і нашу сьвядомасьць.





**НА ЗДЫМКАХ: 1. Такі быў першапачатковы выгляд замка паводле рэканструкцыі А.ТРУСАВА; 2. Замак у 30-я гады нашага стагоддзя.**

**Уладзімір ЛОГАШ.**



## СПОРТ

### КУБАК У «БУДЗАКАЗА»

У спарткомплексе Уручча прайшоў чацьвёрты фінал розыгрышу Кубка Беларусі па міні-футболу. Пасьля папярэдніх гульняў у фінал трапілі два менскія клубы "Будзаказ" і "Эліта".

Фінальная сустрэча праходзіла ўпарта і закончылася з лікам 1:0 на карысьць "Будзаказу".

"Будзаказ" стаў першым клубам, які двойчы заваяваў пачэсны трафей - кубак, на выкананьне якога ад першага розыгрышу спатрэбілася амаль чатыры гады.

Цікава, што за прайграўшых выступаў знакаміты Георг Кандрацьцеў. Георг, дзеля падтрыманьня спартыўнай формы, перад ад'ездам да Фінляндыі даў згоду дапамагчы "Эліце".

На жаль, ад'езд Кандрацьцева - гэта не адзіная страта беларускага футболу. Падпісаў кантракт з Санкт-Пецярбургскай "Зьменай-Сатурн" і лепшы снайпер нашага футзалу Сяргей Лагуцька.

Г.Д.

### «ЦІВАЛІ» ІЗНОЎ САСТУПАЕ

На лёдавай пляцоўцы крытага катка парку імя Горкага, ў Менску, хакеісты ХК "Цівалі" правялі адну з апошніх гульняў у рамках папярэдняга этапу розыгрышу кубка МХЛ. Сапернікамі цівалят былі гульцы ніжагародзкага "Тарпеда". На сум шматлікіх гледачоў, менчукі саступілі без барацьбы 1:5 і па-ранейшаму займаюць апошні радок у турнірнай табліцы Усходняй зоны МХЛ. Безвыніковая, абыякавая гульня "Цівалі" не можа не насьцярожваць прыхільнікаў клубу. Не за гарамі фінал нацыянальнага чэмпіянату Беларусі, дзе сталічным хакеістам прыйдзецца адстойваць сваё званьне чэмпіёна з самалюбівымі клубамі "Нёман" і "Палімір".

Г.А.

### НАЧАЛЬНІК БЕРАСЬЦЕЙСКАГА УУС — БРАКАНЬЕР?

Як паведаміла добра інфармаваная крыніца, начальнік Берасьцейскага УУС М.Зялёны падазраецца ў зьдзейсьненым нядаўна браканьерстве - адстрэле ласяі без ліцэнзіі.

Згодна папярэднім дадзеным, лесьнікі, якія знайшлі галоўнага берасьцейскага міліцыянта і яго намесьніка ля забітага зьвера, склалі адпаведны пратакол, аднак праз два дні яго забралі ў лясьніцтве вялікія чыны ў міліцэйскіх пагонах. Зараз да рассьледаваньня гэтай справы падключылася абласная пракуратура.

СІМ

### ОЙ ВЫ, ЛЁГКІЯ ФІГУРЫ

Штогод у Горадні аматары гульні ў шашкі ды шахматы ладзяць мноства разнастайных шахматна-шашачных спаборніцтваў. Асаблівай папулярнасьцю карыстаюцца масавыя турніры на сьвежым паветры. Менавіта тут, на гэтых сустрэчах, могуць заўжды памерацца сіламі вопытныя майстры з пачаткоўцамі. Таксама старэйшыя заўжды дарадзяць, падкажуць.

**НА ЗДЫМКУ: Сітуацыя складаная, неабходна падумаць.**

**Фатаграфаваў: У.Уладасевіч.**



## КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

У палове пятай ночы быў пабіты ахоўнік аднаго з прыватных агенцтваў Горадні. Да таго ж, з яго зьнялі скураную куртку. Самае цікавае, што калі міліцыя высьветліла асобы вінаватых, то імі аказаліся ніхто не працуючы і... ахоўнік агенцтва бясьпекі з Менску. Вось ужо сапраўды, свой свайго...

* * *

Фактам, што значная частка студэнтаў, каб яксьці праіснаваць, вымушана гандляваць, у наш час нікога не зьдзівіш. Але бізнес бывае ўдалым не заўсёды.

На вуліцы Каліноўскага, ў Горадні, трое невядомых набывалі ў студэнта медінстытута К. імпартныя цыгарэты. Калі ўсе 45 блокаў былі загружаны, яны папросту выштурхнулі няўдалага бізнесмэна з машыны і зьніклі.

* * *

Уначы 1 сакавіка з фасада будынка ЗАГСа Кастрычніцкага раёна абласнога цэнтра, на плошчы Дзекабрыстаў, невядомымі скрадзены адзінаццаць мармуровых пліт.

* * *

Ісьціну, што ў байцы ніколі нельга паварочвацца сьпіной да працаўніка, на ўласным горкім вопыце перакanaўся гарадзенец Ж. Пры разьбіральніцтве на вуліцы Замкавай невядомы ўсадзіў яму зарад шроту ў месца ніжэй сьпіны.

* * *

Падробленую 100-доларавую купюру спрабаваў збыць у абменным пункце валюты "Комплексбанка" на плошчы Савецкай у Горадні вадзіцель аднаго з сумесных прадпрыемстваў. Фальшыўка выраблена афсетным спосабам на нестандартнай паперы. На ёй адсутнічаюць каляровыя ўкрапленьні. І галоўнае: на партрэце прэзідэнта ЗША не прамацваецца каўнер.

* * *

Няспынная зьмяшчэньне ў газетах аб'яваў аб пакупцы дзяржаўных узнагарод штурхае асобных грамадзян на брудны бізнес - крадзяжы ардэноў і медалёў.

З кватэры на вуліцы Рэйманта ў Горадні невядомымі скрадзены два Ордэны Працоўнага Чырвонага Сьцяга, два Ордэны Айчыннай Вайны, медалі "20 гадоў Перамогі ў ВАВ", "60 год Узброеных Сіл", "Ветэран працы".

* * *

У пагоні за каляровым металам зламысьнікі не спыняюцца ні перад чым.

З кабельных калодзежаў уздоўж дарогі Парэчча-Азёры Гарадзенскага раёна невядомымі скрадзена 800 метраў кабелю міжнароднай тэлефоннай станцыі з медным сардэчнікам.

* * *

У Шчучыне, пры спробе крадзяжу 40 метраў меднага кабелю з тэрыторыі ваеннага аэрадрома, затрыманы двое мясцовых жыхароў. Электрычны кабель скрадзены таксама з ахоўваемай тэрыторыі вайсковай часткі ў Гарадзенскім раёне. Значыцца, так ахоўваюць.

* * *

Ну і, нарэшце, 20 метраў меднага кабелю скрадзена са зварачнага апарата на тэрыторыі... Гарадзенскага заапарка.

* * *

Да якога кашчунства трэба дайсьці, каб красьці электрамантажныя тармазы з машынных памяшканьняў ліфтавога абсталяваньня, якія ўтрымліваюць медзь. Той факт, што ліфты могуць "загрымець", злачынцаў не хвалюе. Такія крадзяжы мелі месца ў шасьці дамах на бульвары 60 год Кастрычніка, у чатырох - на праспекце 40 год Перамогі і ў доме на вуліцы Пестрака, ў Горадні.

* * *

Цэлую ружэйную майстэрню "накрыла" міліцыя ў кватэры пеньсіянера на вуліцы Ажэшка, ў Горадні. Канфіскавана абсталяваньне для вырабу зброі, самаробны пісталет калібру 5,45 мм, пяць патронаў да яго, 12 дзевяціміліметровых патронаў і сем патронаў калібру 5,6 мм.

* * *

За вырабам наркатычных сродкаў у кватэры на вуліцы Дамброўскага абласнога цэнтра міліцыяй затрыманы трое непрацуючых жыхароў Горадні. У іх канфіскавана 150 грамаў травяной масы бурага колеру, дзьве бутэлькі з празрыстай вадкасьцю, 14 шпрыцоў.

* * *

Разбойны напад быў зьдзейсьнены на прыватнага прадпрымальніка з Дзятлава. У палове адзінаццатай гадзіны вечара яму пазванілі. Калі ён выйшаў, то невядомы некалькі разоў ударыў яго і пад пагрозай пісталета завёў у кватэру. Адначасова з імі ў кватэру зайшлі трое невядомых. Зьвязаўшы гаспадара кватэры, яго жонку і састарэлую бабулю, невядомыя забралі 3620 долараў ЗША, насільныя рэчы, тры пярсьцёнкі, залаты ланцужок з кулонам і залатыя завушніцы. Вядзецца пошук злачынцаў.

* * *

Не па-джэнтэльменску паступіў малады чалавек, які тры тыдні кватэраваў у грамадзянкі Т. з Горадні. Пасьля яго адыходу яна заўважыла зьнікненьне 140 долараў ЗША, чорнай скуранкі, зімовых ботаў... і дзьвюх пляшак гарэлкі

А.ІВАНОЎ.

## ПАМЯЦІ СЛЫННЫХ ЗЕМЛЯКОЎ

**Ушанаваньне памяці славутага земляка Тадэвуша Касьцюшкі і яго паплечнікаў, удзельнікаў паўстаньня 1794 года, узяла на сябе дабрачынная грамадзка-культурная арганізацыя - фонд Тадэвуша Касьцюшкі, што створаны ў Берасьці. Мэта яго заключаецца таксама і ў прапагандзе дэмакратычных прагрэсіўных ідэй, на якіх калісь грунтаваліся паўстанцы - змагары за ідэалы дэмакратыі і свабоды два стагодзьдзі таму.**

Фонд Т.Касьцюшка накіраваў ураду рэспублікі зварот, дзе прапанаваў на дзяржаўным узроўні адзначыць 250-годдзе з дня нараджэньня кіраўніка паўстаньня, а юбілейны 1996 год аб'явіць годам Тадэвуша Касьцюшкі. Да гэтага часу прывесьці ў належны выгляд сядзібы ў Мерачкоўшчыне і Косаве, што ў Івацэвіцкім раёне, а таксама ўшанаваць імёны паплечнікаў па вызвольнай барацьбе і яго кіраўніка на помніку ў Берасьці.

У гонар 200-х угодкаў паўстаньня ўжо выйшлі з друку юбілейныя паштовыя маркі прысьвечаныя Тадэвушу Касьцюшке, Міхалу Клеафасу Агінскаму і іншым знакамітым удзельнікам вызвольнага паўстаньня 1794 года.

П.ЖЭБРАК.

### ФІЛІЯ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» У БЕРАСЬЦІ

Рэгіянальная арганізацыя Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" створана ў Берасьці. Галоўнай мэтай яе дзейнасьці з'яўляецца садзеяньне наладжваньню цесных сувязяў з суайчыньнікамі за мяжой, абмен інфармацыяй у галіне навукі, культуры і адукацыі. Рэгіянальную філію ўзначаліў прафесар мясцовага педінстытута Сяргей Яцкевіч.

Л.ЯСЕНЬ.

### ІНТЭРНЭТ У БЕЛАРУСІ — 95

**5-7 красавіка 1995 года ў Менску на базе Беларускай дзяржаўнай палітэхнічнай акадэміі адбудзецца міжнародная канферэнцыя "Інтэрнэт у Беларусі: выкарыстаньне кампутарных сетак у адукацыі".**

Канферэнцыя, арганізаваная сумесна Беларускай палітэхнічнай акадэміяй, інфармацыйнай службай Пасольства ЗША ў Беларусі, фондам "Эўразія", фірмай "Саміт Сістэмс", сеткай UNIBEL і Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, накіравана на тое, каб даць магчымасьць прафесійным работнікам у сьферы адукацыі і спецыялістам, якія забясьпечваюць кампутарную сувязь і яе наладжваньне, абмеркаваць перспектывы развіцьця і выкарыстаньня Інтэрнэт у Беларусі і яе значэньне, як крыніцы інфармацыі.

Забясьпечваючы практычна беспярэшкодны доступ да важнай інфармацыі па разнастайнай праблематыцы, Інтэрнэт зрабіла сапраўдную рэвалюцыю ў сферы адукацыі ў Заходняй Эўропе і ЗША. У апошнія гады доступ да Інтэрнэт стаў магчымым і на Беларусі, што ўжо ў агляднай будучыні дазволіць беларускім выкладчыкам непасрэдна карыстацца шырокімі інфармацыйнымі рэсурсамі.

У рабоце канферэнцыі прымуць удзел спецыялісты са Злучаных Штатаў Амэрыкі, Вялікабрытаніі, Польшчы, Расеі і Беларусі. Удзельнікі канферэнцыі атрымаюць магчымасьць пазнаёміцца з Інтэрнэт дзякуючы прамой кампутарнай лініі, якая на час канферэнцыі злучыць Беларусь з інфармацыйнымі сеткамі ў ЗША і іншых краінах сьвету.

Рабочыя мовы канферэнцыі - руская і ангельская. Даклады на ангельскай мове будуць суправаджацца сінхронным перакладам на рускую мову.

Арганізацыйны камітэт забясьпечыць разьмяшчэньне іншагародніх удзельнікаў канферэнцыі ў інтэрнаце БДПА.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць у арганізацыйным камітэце па тэлефоне (0172) 31-34-17.

"ПАГОНЯ"

Рэдактар М.МАРКЕВІЧ.

Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".

Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.

Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.

Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.

Пры передруку спасылка абавязкова. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест разьмешчанай у газеце рэкламы. Індэкс 63124.

Фотанабор, афсетны друк.

Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.

Заказ 941

Наклад 10944 паасобніка.